

КЛІМЕНТ ЕФРЭМАВІЧ ВАРАШЫЛАЎ



# З намі Варашылаў

І. Касогаў

У прасторнай хаце было накурана, душна, хоць вокны і адчынены насцеж.

Тут сабраліся на нараду камандзіры і камісары. Яны толькі што вярнуліся з бою і былі вельмі зморраны.

Таварыш Будзённы даваў апошнія ўказанні.

У канцы нарады падняўся Варашылаў. Сход адразу ажывіўся.

Варашылаў гаварыў не доўга. Але ўсе камандзіры ясна зразумелі свае задачы.

„Нашы ўдары па ворагу павінны быць быстрымі, як маланка,—вучыў камандзіраў таварыш Варашылаў.— Мы павінны ачысціць ад паноў не толькі Кіеў, але і выгнаць іх за межы савецкай зямлі“.

Наступленне на белапалякаў было прызначана на 5 чэрвеня.



Зранку ў гэты дзень стаяў вялікі туман. Нічога не відаць перад сабой. Цёпла, нават душна ад сырасці. Палкі ляніва ідуць на перадавыя пазіцыі, адкуль пачнецца наступленне.

Артылерысты злуюцца:

— Ну і пагодка-ж! Ліха ведае, куды страляць! Нічога не відаць.

Але вось туман крыху пачаў рассявацца. Аднак нашы часці ўсё яшчэ як сонныя,— наступлення не пачынаюць.

Я ўзлез на царкоўную званіцу і стараюся ў бінокль скрозь туман разгледзіць белапольскія пазіцыі. Раптам скрыпнулі старыя ўсходкі званіцы. Нехта спешна падымаецца на наш наглядальны пункт.

— А, вось яны дзе! Ну, добры дзень! Як у вас справы?

Гляджу я—перада мною таварыш Будзённы. За ім—Варашылаў.



*Дружна ўсталі,*
*Ваявалі,*
*Як віхорляталі.*
*Нашу ўладу,*
*Ўладу Працы*
*Кроўю адстаялі.*

Я дакладваю, што ўсе загады аддадзены, але брыгады чагосьці мнуцца.

— Мнуцца! мнуцца! Вы таксама, баценька, нічога не робіце. Думаеце, загадалі, а там само пойдзе. Мы то думалі, што ў вас усё ў парадку, а вы яшчэ толькі збіраецеся! — напаў на мяне таварыш Варашылаў.

Паглядзеўшы ў бінокль у бок польскіх пазіцый, ён сказаў Будзённаму:

— Без толку тарчаць тут нам няма чаго, Сымон Міхайлавіч. Трэба спяшацца ў брыгады і шавяліць іх.

Вестка аб прыездзе Варашылава і Будзённага хутка разляцелася па ўсёй дывізіі. Палкі ажывіліся. Наступленне пачалося.

Мы падышлі да артылерыйскіх пазіцый. Будзённы гаворыць:

— Ну, вы аставайцеся тут, а я

падскочу да першай брыгады. Трэба яе выставіць бліжэй, вунь на тое месца, каб адразу націснуць усімі сіламі!

— Добры дзень, таварышы! Што-ж гэта вы з панамі так цацкаецеся? Глядзіце, яны папіваюць сабе чай ды насміхаюцца з вас, — загаварыў Варашылаў да артылерыстаў.

— Ды не, таварыш Варашылаў. Мы прабавалі страляць, але цэль дрэнная. Не відаць, куды знарады кладуцца, — пачаў апраўдвацца камандзір другой батарэі.

— Эх вы, артылерысты! Прывыклі біць, калі ў вас відаць усё, як на ладоні. Паспрабуйце вунь навесці на край вёскі. Там нешта шавеліцца: напэўна ворага нашчупаеце.

— Прыцэл! Агонь!—скамандаваў камандзір батарэі.

Першыя знарады ўзарвалі крайнія будынкі вёскі. Між імі забегалі шэрыя фігуркі.

Выпусцілі яшчэ некалькі знарадаў, і з разгромленага месца выскачыў на луг эскадрон польскай конніцы. З лесу-ж, куды паехаў Будзённы, насустрач ім памчаліся нашы кавалерысты. За імі — дваццаты полк, потым бранявікі... І ўся наша кавалерыйская дывізія кінулася ў бой.

Праз некаторы час белапалякі былі разбіты. Але першыя выстралы ў гэтым слаўным баі былі зроблены па ўказанню таварыша Варашылава.



НЯХАЙ ЖЫВЕ СЛАЎНАЯ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ— ВЕРНЫ ВАРТАЎНІК СОВЕЦКІХ ГРАНІЦ!




# Выпраўляла маці сына

ЯНКА КУПАЛА

Выпраўляла маці сына
    З калгаснае хаты
Не на службу у чужыну,
    Не к дзяўчыне ў сваты.

Выпраўляла і казала:
    — Мой сыночак мілы,
Ужо маеш ты не мала
    Розуму і сілы.

Пойдзеш ты у свет і людзі
    Хадою адважнай,
Прад табою слацца будзе
    Край наш неабсяжны.

Не зазнаеш крутых сцежак—
    Сыты і адзеты—
Вартаваць ты будзеш межы
    Краіны советаў.

Не зазнаеш тамка гора,
    Будуць паважаці,
Даглядаць цябе не горай,
    Як родная маці.

Не ў салдатах быць пад царам,
    Пад кнутом жандарскім,—
Служыць будзеш ты Советам,
    Справе пролетарскай.

Выпраўляла маці сына
    З калгасных загонаў,
Каб служыў той верна, ўчынна
    Арміі Чырвонай.

# АДКУЛЬ



# у кіта такое горла

Казка Р. Кіплінга
Малюнкі В. Тіхановіча

Гэта было даўно, мой мілы чытач. Жыў быў Кіт. Ён плаваў па моры і еў рыбу. Ён еў і ляшчоў, і яршоў, і бялугу, і сяўругу, і сялёдку, і сялёдчыну цётку і плотачку і яе сястрычку, і шустрага, жвавага ўюна-вяртуна. Якая рыба трапіцца, тую і з‘есць. Раскрые рот, гам — і гатова!

Так што нарэшце ва ўсім моры засталася адна толькі Рыбка, ды і тая малютка-калюшка. Гэта была хітрая Рыбка. Яна плавала побач з Кітом каля самага яго правага вуха, каб ён не мог яе глынуць. Толькі гэтым і ратавалася яна. Але вось Кіт устаў на свой хвост і сказаў:

— Есці хачу!

І маленькая хітранькая Рыбка сказала яму маленькім хітранькім голасам:

— Ці даводзілася табе спрабаваць чалавека, вялікадушнае стварэнне?

— Не,—адказаў Кіт.—А які ён на смак?

— Вельмі смачны,—сказала Рыбка.—Толькі трохі калючы.

— Ну, дык прынясі мне іх сюды з поўдзесятка,— сказаў Кіт. І так ударыў хвастом па вадзе, што ўсё мора пакрылася пенай.

— Хопіць табе і аднаго!—сказала Рыбка.—Праплыві пяцьсот міль на Поўнач і чатырыста міль на Захад і ты ўбачыш сярод мора плыт. На плыце сядзіць Марак. Яго карабель пайшоў на дно. Толькі і вопраткі на ім, што сінія палатняныя штаны, падцяжкі (не забудзься пра гэтыя падцяжкі, мой мілы чытач!) ды паляўнічы нож. Але павінна сказаць табе па шчырасці, што гэты чалавек вельмі разумны і смелы.

Кіт памчаўся што ёсць сілы. Плыў, плыў і даплыў куды сказала Рыбка. Бачыць, і сапраўды: сярод мора плыт, на плыце Марак, і больш нікога. На Мараку сінія палатняныя штаны ды падцяжкі (глядзі-ж, мой мілы чытач, не забудзься пра падцяжкі!) ды з боку паляўнічы нож. Сядзіць Марак на плыце, а ногі апусціў у ваду.

Рот у Кіта адкрываўся ўсё шырэй і шырэй, і шырэй і адкрыўся да самага хваста. Кіт праглынуў і Марака, і яго плыт, і яго сінія палатняныя штаны, і падцяжкі (калі ласка, не забудзься пра падцяжкі, мой мілы), і нават паляўнічы нож. Усё правалілася ў той цёплы і цёмны склеп, які называецца жалудкам Кіта. Кіт аблізнуўся—вось так!—і тры разы крутнуўся на сваім хвасце.

Але, як толькі Марак, які быў вельмі разумны і смелы, апынуўся ў цёплым і цёмным склепе, што называецца жалудкам Кіта, ён давай перакульвацца, брыкацца, кусацца, біць, калаціць і хлопаць, і тупаць, і стукаць, і брынчаць, і ў такім месцы, як жывот, затанцаваў так гапака, што Кіт адчуў сябе зусім нядобра.

І сказаў ён маленькай Рыбцы:

— Не па нутру мне чалавек, не да смаку. У мяне ад яго ікота. Што рабіць?



— Ну, дык скажы яму, каб выскачыў вон,—параіла хітрая Рыбка.

Кіт крыкнуў Мараку:

— Гэй ты, выходзь! І, глядзі, трымай сябе так, як належыць. У мяне праз цябе ікота.

— О, не!—сказаў Марак.—Мне і тут добра! Вот калі ты адвязеш мяне да маіх родных берагоў, да белых скалаў Англіі, тады я можа падумаю: выходзіць мне ці заставацца?

І ён яшчэ мацней затупаў нагамі.

— Нічога не зробіш, вязі яго дамоў,—параіла Рыбка Кіту.—Я-ж казала табе, што ён вельмі разумны і смелы.

Кіт паслухаўся і адправіўся ў дарогу. Ён плыў і плыў, і плыў, працуючы праз усю дарогу хвастом і двума плаўнікамі, хоць яму надта перашкаджала ікота.

Нарэшце паказаліся і белыя скалы Англіі. Кіт падплыў да самага берагу і пачаў раскрываць свой рот усё шырэй, і шырэй, і шырэй, і шырэй—і сказаў Мараку:

— Пара выходзіць. Перасадка. Бліжэйшыя станцыі—Вінчэсцер, Ашуэлот, Нашуа, Кіні і Фічбаро.

Ледзь ён сказаў: фіч,—як з рота яго выскачыў Марак. Гэты Марак і сапраўды быў вельмі разумны і смелы. Седзячы ў жываце Кіта, ён не траціў часу дарма: ножыкам пашчапаў свой плыт на тонкія лучынкі, злажыў іх крыж-накрыж і моцна звязаў падцяжкамі (цяпер ты разумееш, чаму табе не трэба было забывацца пра падцяжкі!), і ў яго атрымалася рашотка, якою ён і загарадзіў Кіту горла. Пры гэтым ён сказаў чароўныя словы. Ты гэтых слоў не чуў і я з радасцю скажу іх табе. Ён сказаў:

Паставіў я рашотку,
Кіту заткнуў я глотку.

З гэтымі словамі ён скочыў на бераг, на дробненькія каменьчыкі і зашагаў дахаты. Потым ён ажаніўся і быў вельмі шчаслівы. Кіт таксама ажаніўся і таксама быў вельмі шчаслівы. Але ад гэтага дня і на ўвесь час у яго ў горле стаяла рашотка, якую ён не мог ні праглынуць, ні выплюнуць. Праз рашотку яму ў горла трапляла толькі маленькая рыбка. Вось чаму ў наш час кіты ўжо не глытаюць людзей. Яны не глытаюць нават маленькіх дзяцей.

А хітрая Рыбка паплыла і схавалася ў густой ціне. Яна думала, што Кіт злаваўся і баялася паказацца яму на вочы. Вось і ўсё.





Эх, як слаўна, міла
Снежнаю зімой
Праляцець на санках
З горкі ледзяной!

Хоць бывае часта
І чырвоны нос,
Ды не страшны дзецям
Холад і мароз,

ЯКУБ КОЛАС



# Паляванне на тхара

Малюнкі А. Волкава

Дзяціны час! Я памятаю
Зімы прыход у нашым краю.
Стаіць над лесам шум маркотны;
Па небе хмары, як палотны,
Паўночны вецер рассцілае,
І бель над далямі звісае.
І ціха стане на падворку,
І лес жалобную гаворку,
Свой гоман восені канчае
І моўчкі зіму сустракае.
А сетка белая гусцее
І бліжай-бліжай снегам сее.
І тут у хаце не ўтрываеш;
Кажух на плечы накідаеш,
Бяжыш на двор, як той шалёны,
Крычыш, гукаеш здавалены,
Зямлі не чуеш пад сабою
І ловіш белы пух рукою.
Уверх зірнеш—як рой пчаліны,
Снуюцца ціхія пушыны,
Ўгары знячэўку штурхануцца,
Глядзіш—і ў пары пабяруцца.
— О го-го-го, брат!—дзядзька
кажа:
Цяпер зіма напэўна ляжа!
За санкі, Костусь, трэба брацца,
Эх, будзеш мецць дзе разгулящца!—
І Костусь рады і давольны:
Цяпер гулянак свет раздольны,
Адкрыты новыя пуціны
У круг забаў яго дзяціных;
І ён ад радасці трасецца
Ды ў мяккім снезе скачанецца.

* * *

І дзядзька доўга не чакае,
Маўчком ён Костусю ківае;
А Кастусёк даўно гатовы—
У іх раней была намова

Сходзіць у луг на азярыны
І патрывожыць род тхарыны,
На рэчцы загарадзь паправіць
І новы буч яшчэ паставіць.
За пояс дзядзька закладае
Сваю сякеру, Таксу кліча,
Кусок аладкі ў нос ёй тыча
І вон за дзверы выпускае,
А Костусь з торбаю, з лапатай
Даўно чакае іх за хатай.

* * *

Задраўшы ўгору хвост трубою,
Сама давольная сабою,
Снуецца Такса між кустамі,
Бяжыць і спыніцца часамі,
Наставіць вушы, разважае,
Вушамі нос свой правярае
І не зрухнецца, як застыне,
І лапу нават чуць узніме.
А дзядзька Таксу падганяе:
— Шукай тхара! шукай, малая!—
І Такса кінецца стралою
Туды, дзе цэлай чарадою
Стаяць алешыны крывыя,
Пад іх карчагі патайныя.
— Ты-ж стой, брат, тут! пільнуй,
як вока:
Ён тут, галубчык, недалёка!
І не пудлуй, не дай, брат, маху—
Валі рыдлёўкаю без страху...—
І дзядзька мовы не канчае,
Ён кол маланкаю хапае.
— Тхор! тхор! дзяржы яго!—
галосіць,
Гарачка дзядзьку так і носіць,
Бяжыць, тхара ён даганяе,
На пагатове кол трымае.
За дзядзькам Костусь прэ без духу.
— Дзяржы тхара, дзяржы, псяюху!
А тхорык бедны ў куст зашыўся,
Няма ратунку, ашчарыўся,
На Таксу сам ён нападае,
І чмыс яе грызе, кусае,
Пішчыць, дзярэцца, смрод пускае,
Але нішто не памагае:
Таўкуць калом яго, рыдлёўкай,
За шкурку плаціць тхор галоўкай.
Вось гэта, Костусь брат, удача!—
І дзядзька рады, чуць не скача
І гладзіць Таксачку па вушку,
Яе ён лашчыць, як дачушку;
Яна ж за гэта ласкі слова
На смерць, на ўсё пайсці гатова:
Вачамі ў вочы так і зорыць,
Віхлястым хвосцікам гаворыць.

*Урыўкі з „НОВАЙ ЗЯМЛІ".*






Народная казка
Малюнкі А. Волкава

Жыў быў дзед з бабай. Былі ў іх невялічкія жаронцы. Але такія, што самі малолі. Радаваўся дзед і радавалася баба: жаронцы самі мелюць!

Дачуўся пра гэтыя дзіўныя жаронцы пан. Узяла яго зайздрасць. „Як-бы гэта,—думае,—мне такія жаронцы дастаць“.

Вось раз вечарам заехаў пан з сваім парабкам к дзеду ды просіцца:

— Пусці, дзед, пераначаваць. На паляванні быў я ды спазніўся.

— Добра,—кажа дзед,—калі ласка, пане.

Спякла баба яечню. Пан наеўся, і ўсе ляглі спаць.

Уночы пан разбудзіў свайго парабка ды кажа яму паціху:

— Бяжы запрагай каня.

Пабег парабак, запрог каня. А пан, тым часам, украў жаронцы ды ходу з хаты.



Устаў назаўтра дзед, глядзіць— ні пана, ні жаронцаў. Сказаў дзед бабе, і абое яны сталі плакаць. Пачуў гэта пеўнік ды пытае:

— Чаго вы плачаце?

— Як-жа нам не плакаць,—кажа баба:—пан жаронцы ўкраў ды паехаў.

— Ладна,—адказаў пеўнік,—не плачце, жаронцы я вам вярну.

Пабег пеўнік да пана. Стаў на варотах ды і заспяваў: „Ка-ка-рэ-ку, пан жаронцы ўкраў ды паехаў!“

Загадаў пан злавіць пеўня ды ў стайню ўкінуць, каб там яго коні затапталі. Але колькі не лавілі—ніяк злавіць не маглі. Нават сам пан лавіў ды нос разбіў. А пеўнік усё бегае кругом палацаў ды ўсё спявае: „Ка-ка-рэ-ку, пан жаронцы ўкраў ды паехаў!“

Нарэшце такі злавілі пеўніка.

— Утапіць яго!—загадаў разгневаны пан.

Схапілі панавы слугі пеўніка ды ўкінулі ў рэчку. А ён плавае сабе, як ні ў чым не бывала, ды спявае:

„Ка-ка-рэ-ку, пан жаронцы ўкраў ды паехаў!“

Дачуліся пра гэта ўсе людзі. Сталі пана лаяць і злодзеем зваць. Няма чаго рабіць пану. Паклікаў ён пеўніка ды аддаў жаронцы. Схапіў пеўнік тыя жаронцы, замахаў крыллямі ды хутчэй дахаты.

Рад дзед з бабай, і цяпер яшчэ пеўніка хваляць не нахваляцца.

Запісалі дзяткоры: **ЧЫСЦЯКОЎ ЯНКА і СЫРКІН ЭЛЯ** (Расонская НСШ).





# Непрыступны востраў

Апавяданне А. Якімовіча
Малюнкі А. Волкава

## I

Усхваляваны паручнік*) быстра шагаў узад і ўперад па габінеце валаснога старшыні. Хмары сігарэтнага дыму кружыліся і бегалі ўслед за ім. Часамі ён раптоўна прыпыняўся, шлёпаў бізуном па глянцавай ад густой ваксы халяве.

— Так, так,—паўтараў ён, ківаючы галавой.

Старшыня моўчкі калупаў запалкай зубы. Ён толькі што паснедаў, і зараз грузна асеў у сваім пружынным крэсле.

Нарэшце паручнік раптам спыніўся, прысеў.

— Пане вуйт**), я прыдумаў!..

— Што? Добры план?

— Ха-ха ха! Што значыць — добры? Сам начальнік дзяржавы не мог-бы прыдумаць такога!

— Ну?—здзівіўся ашарашаны вуйт.

— Да партызанскага вострава ёсць толькі адна дарога. Калі лічыць правільнымі весткі, што мы атрымалі?

— Так, — падцвердзіў вуйт. — Толькі адна. Другая, — праз Чортава балота,—гіблая і ненадзейная. Гэта месца я ведаю, як свае пяць пальцаў.

— Значыцца, адна.

— Але-ж, пане паручнік, ты сам толькі што сказаў: „ісці адкрытай дарогай, значыць палажыць усю роту. А чакаць папаўнення — усё роўна, што здаць партызанам воласць“.

*) Паручнік—афіцэр белапольскай арміі,

**) Вуйт—старшыня воласці пры белапаляках.



— Правільна, — спакойна згадзіўся паручнік.

— Як-жа тады выходзіць?

Паручнік узяў карандаш і кавалак чыстай паперы.

— А вось як,—пачаў ён штосьці рысаваць.—Пастух гоніць на востраў быдла. Ну, гоніць пасвіць... Сярод быдла ідуць жалнеры, чалавек дзесяць, і вязуць два кулямёты. Яны—прыгнуліся... Ніводзін д'ябал з балота не заўважыць іх у чарадзе... І вось...—вочы паручніка заблішчэлі. Дрыжачымі ад радаснага хвалявання рукамі ён запаліў запалку і прыкурыў даўно патухшую цыгару.

Вуйту нарэшце стала ясна.

— Пане паручнік! Ты сапраўдны палкаводзец! Такая галава, такая светлая галава!..

Захапіўшыся свім планам, паручнік фантазіраваў далей:

— Партызаны ў пастцы! Непрыступны востраў у нашых руках. Хай паспрабуе тады ўцячы хоць адзін. Жывых я сваімі рукамі буду вешаць вось тут за акном, на пляцы. Для гэтага, пане вуйт, табе ўжо прыдзецца паклапаціцца сабраць усю сваю гміну*). Няхай падзівяцца хамы і дзесятаму закажуць.

І вуйт і паручнік не ведалі як выявіць сваю радасць. Нарэшце-такі партызанам прышоў канец!

— А гэта-ж так лёгка,—з гонарам спрактыкаванага ваякі гаварыў вуйт.—Праз 3—4 гадзіны быдла пагоняць на адвячорак. Пастух выганіць з вёскі. Адгоніцца, а там раз-два—і гатова!

II

Сонца ўжо звярнула з паўдня, калі з весніц вёскі Загрэбнае паказалася чарада кароў. Яшчэ санлівыя пасля адпачынку, яны вяла махалі хвастамі, нехаця варушыліся. Ззаду чарады відаць было, як роўнамерна ківалася пастухова галава з сівай барадою.

На прагоне, за весніцамі, каровы ажывіліся, пачалі касіцца на неагароджаную ярыну. Але вось з-за чарады выскачыў хлапчук, гадоў дзесяцідванаццаці. Левай рукой ён прыгрымліваў даўгую торбу, а правай гарэзна размахваў пугай, бегаў каля стада і жвава камандваў:

*) Гміна—воласць.





— Куды, Красуля! Рабая, назад!

Стары пастух ішоў ззаду.

— Памалей, памалей, Петрык, не ганяй іх,—раіў ён падпасычу.

Каровы мінулі прагон і ўвайшлі ў невялікі малады ельнік. За ельнікам—недалёка і пасвішча.



Тут Петрык зашагаў з пастухом поплеч, ласа пaглядаючы на яго бяроставую трубу. Вось-бы яму такую! Здаецца, трубіў-бы цэлы дзень. Але-ж гэта шчасце трапляецца так рэдка. Падпасыч у пастуха кожны дзень новы, а чарга прыходзіць не скора. Петрык заўсёды з нецярплівасцю чакае сваёй чаргі. Пастух тады не шкадуе берастоўкі. Апрача таго, дзед Анупрэй такі дзіўны казачнік, што яго слухаў-бы дзень і ноч. А пасвіць з ім—адна любата!

— Дзед,—не сцярпеў Петрык,— дай я тут разок затрублю. Вось рэха, мусіць, пойдзе!

— А вось і не дам,—падражніўся дзед усміхаючыся.

— Я толькі разок, пакуль выгонімся з ельніку, — шчыра прасіўся Петрык.

— Ты мне ўсіх ваўкоў пасклікаеш, — жартаваў дзед.

— Ваўкоў?

— Ага.

— Тут-жа, дзед, нават белкі не знойдзеш, не то, каб ваўкоў.

— Хітры які, не падманіш,—стаў знімаць дзед з плеч сваю берастоўку.

З радасцю схапіў яе Петрык, аблізаў губы і тоненька зацюгукаў. Бледны твар яго пачырванеў, надзьмуўся, як мячык.

Дзед ласкава глядзеў на свайго падпасыча і вочы яго смяяліся па-маладому.

— Так, так, унучак. Не надрывайся толькі. Старайся затрымліваць дух, не ўвесь выпускай адразу,—навучаў стары.

Раптам з боку штосьці моцна хруснула. Дзед аглянуўся: у шагах дзесяці проста да іх подбегам спяшаліся два жалнеры. Пастух збялеў, як палатно. Петрык выпусціў з губ берастоўку ды так і застаўся стаяць на месцы з адкрытым ротам.

Услед за жалнерамі шагаў нейкі чалавек, на ваенных зусім непадобны. „Няўжо валасны старшыня?"—пільней углядаўся пастух.

Старшыня падышоў, паздароўкаўся з дзедам за руку.

Глянуў Петрык на кароў, а яны—спыніліся. Чаго-б гэта? Прыгледзіўся лепш, аж бачыць: спераду таксама жалнеры...

— Вот што, Анупрей—здаецца так зваць?—быстра і па-сяброўску загаманіў старшыня,—зараз-жа пагоніш кароў у востраў. У чарадзе пойдуць яны, — старшыня паказаў на жалнераў. — Толькі глядзі, — гнаць памалу. Стадку не распускай.—Пры гэтых словах старшыня раптоўна нахмурыўся, напусціўшы на сябе строгі начальніцкі від.

— А калі што якое, — падняў ён скамечаны кулак, — не жыць і табе і падпасычу. Ясна?

III

Дзед Анупрэй ішоў за стадкам скамянелы ад страху. Губы пасінелі, вочы сталі шклянымі. Сівая барада падскаквала ад дрыжыкаў.

Петрык-жа ўвесь абліваўся потам, хоць на дварэ было і не так горача.

— Дзед,—шаптаў ён,—яны ідуць лавіць партызан!..

Пастух маўчаў.

— Яны ідуць страляць партызан!—мацней паўтарыў Петрык, заглядаючы дзеду ў вочы.

Жалнер, што ішоў зблізку, раптам спыніўся, сурова зірнуў на Петрыка:

— Мільч, а то,—намерыўся ён вінтоўкай,—пух і застрэлю...

Петрык замоўк. Пачаў разважаць сам з сабой. Перад вачыма рысаваўся страшны малюнак. У вёску прышоў атрад белапалякаў. (Гэта было зусім нядаўна). Яны сталі ганяцца па дварах, збіраць падводы. Некаторым з другога канца ўдалося ўцячы з коньмі ў лес. Да іх на двор таксама забег адзін белапаляк, высокі такі, худашчавы, у зялёным фрэнчы і галіфе. Бацька толькі што выводзіў з хлява каня: збіраўся ўцякаць, ды не паспеў.

— Паночку, не губі,—прасіўся бацька.—Жніво прышло. Як-жа без гаспадара і каня?

— Не паедзеш?

— Не магу, паночку.

І маці выскачыла, расплакалася. І ён, Петрык, і ўсе дзеці...

Жалнер адступіўся ад бацькі. Падышоў да страхі. Дастаў запалку, чыркануў і паднёс да сухой саломы.

— Паедзеш, пся крэў?

Маці, як стаяла, каменем бухнулася ў ногі. Але жалнер з усёй сілы штурхануў яе ботам. Маці адкацілася. Твар яе заліўся крывёй.

І невядома чым-бы ўсё скончылася, каб не яны, партызаны. Як прыскочылі ў вёску (ім паведамілі тыя, што ўцяклі), дык ад белых толькі пыл закурыўся, толькі іх і бачылі.

Чуў Петрык, што і дзядзька Мірон, сусед іхны, таксама там, разам з партызанамі.

У Петрыка валасы падымалі шапку. Гэта-ж ён сам гоніць белых, каб лавілі і забівалі партызан!.. І дзядзьку Мірона, такога добрага, слаўнага дзядзьку Мірона!..

...А востраў набліжаўся з кожным шагам. Здавалася, ён сам бег насустрач і ніяк не спыніш яго бегу. Ужо выразна відаць усе крайнія дрэвы. Яшчэ ганок двое засталося, а там... Петрыку страшна падумаць. І ён такі бездапаможны.

Раптам—што-ж гэта такое?—між дрэў матнулася як-бы жывая цень. Можа партызан? Петрык адчуў, як задрыжэлі ногі і млявасць падкасіла іх. У вачах пацямнела. Ён страсянуў галавой, заплюшчыў вочы. Потым расплюшчыў, глянуў—замест цені стаіць чалавек. Петрык як зачарованы сочыць за кожным яго рухам. Чалавек падняў да вачэй рукі, і замест вачэй на сонцы ярка заблішчэлі два кругленькія шкелцы. Ззаду ў яго, за плячыма, штосьці, падобнае на стрэльбу. На чалавеку простая кароткая жакетка.

„Дзядзька!"—раптам мільганула ў Петрыка думка. Канечне ён: і боты з халявамі за калені, і жакетка яго, і высокі такі... А шкелцы—ды гэта-ж дзядзькаў бінокаль! Ён з вайны яго прывёз. Колькі разоў ён, Петрык, сам трымаў у руках гэты бінокаль!

Нейкая невядомая сіла падхапіла Петрыка ў гэты міг і сарвала з месца.

— Дзядзька Мірон! страляй! Палякі!—закрычаў ён на ўсю моц.

На неспадзяваны крык з чарады выскачыла трохкантовая зялёная шапка. Гэта выпрастаўся адзін з жалнераў, каб даведацца, што здарылася. Але ў тую-ж хвіліну раздаўся выстрал. Зялёная шапка знікла як згледзіць вокам.

На выстрал партызана-дазорніка збегся ўвесь атрад.

Над стадам засвістаў град куляў. Калі каровы разбегліся, Петрык убачыў на тым месцы два кулямёты. Каля аднаго з іх ляжаў жалнер, відаць, забіты ад першага выстралу. Рэшта паспела адбегчыся, але недалёка: партызанскія кулі спынілі іх...



# ЖЫВЕЛЫ-БУДАЎНІКІ

Шмат хто з вас, рабята, чуў пра баброў. Многія нават ведаюць, што бабры добра будуюць сабе хаты, але, мусіць, не кожны ведае, як яны працуюць.

Свае хаты бабры будуюць у вадзе так, каб падлога знаходзілася над вадой. У вадзе будуюць таму, каб вораг недаступіўся. Каля хаты будуецца свіран, дзе хаваюцца на зіму запасы кары і маладога галля.

Хату бабры робяць з бярвенняў і шчыльна замазваюць глінай. Падмурак акопваецца, як у нас прызбы, а страха абкладаецца дзёрнам і моцна прybіваецца хвастом. Пры гэтым здалёк чуваць стук ад удараў хваста, нібы жанчыны пранікамі б'юць бялізну.

Матэрыялам служаць маладыя дрэвы: асіна, альха, бяроза, топаль і інш. Але не хваёвыя. Бабры ніколі не возьмуць для пабудовы татовы кій ці галіну, што валяецца на зямлі, яны абавязкова спілоўваюць дрэва з пня. Сваімі вострымі зубамі бабёр хутка перапілоўвае нават тоўстае дрэва. Ён адразае ад дрэў верхавіну, галлё, рэжа на кавалкі, здымае кару. Потым бярэ кавалак пярэднімі лапамі і цягне к рэчцы, а там сплаўляе.

Калі вада ў рэчцы змяншаецца, тады бабры будуюць грэблі. Яны забіваюць у зямлю дрэвы, даўжынёю ў адзін метр і таўшчынёю 10—15 сантыметраў, а зверху абкладаюць глінай і дзёрнам. Сустракаюцца грэблі даўжынёю па 150 метраў і вышынёю да трох метраў, гэта значыць не горшыя за тыя, што людзі будуюць каля млыноў.

Дрэвы дастаўляюць галоўным чынам самцы, а будуюць самкі.

Працуюць бабры найбольш ноччу, а дзень праводзяць у сваім доме, які звычайна складаецца з 2—3 пакояў. У час работы стаяць вартаўнікі, якія даюць знаць пра небяспеку сваім таварышам. У выпадку небяспекі бабры з шумам кідаюцца ў ваду.

Каштоўнае ў баброў—шкура. Водзяцца яны ў Паўночнай Амерыцы, у Сібіры, на Поўначы СССР і ў нас на Беларусі. За час вайны баброў многа знішчылі. Цяпер паляванне на іх забаронена і бабры захоўваюцца ў запаведніках.

**Я. М.**

# ЯК ЗІМУЮЦЬ ЗАЯЦ, ВОЖЫК І БЕЛКА

Заяц да зімы не рыхтуецца, толькі пабялее. У яго няма ні гнязда, ні норкі. Спіць ён у снягу, проста пад кустам. Запасаў на зіму не робіць: знойдзе пад снегам траўку, пагрызе кары на маладой асіне—вось і пад'еў.

Вожык да зімы рыхтуе логава. Знойдзе ямку ці пад карчагу зашыецца—гэта яго зімовае жыллё. Назносіць туды сухіх лістоў—подсцілка гатова. Ляжа і засне на ўсю зіму.

Белка яшчэ з восені грыбы сушыць.

Знойдзе грыб, сарве яго, надзене на сучок—грыб і сохне. Збірае арэхі і жалуды ды хавае іх пад мохам. У розныя месцы нахавае арэхаў, а зімой і забудзецца, куды схавала. Добра, калі з пяці складаў адзін знойдзе.

Гняздо белчына або ў дупле, або на дрэве зроблена — вялікае, круглае. У гняздзе цёпла, і ў вялікі мароз белка з яго і носа не пакажа. Згорнецца клубочкам, прыкрыецца пушыстым хвастом і спіць. А пацяплее—вылезе і пабяжыць шукаць яловых шышак.

## У КАГО ВУСЫ Ў РОЦЕ РАСТУЦЬ?

Ёсць такі звер. Праўда, вусы ў яго моцныя, цвёрдыя. Ніякая брытва іх не возьме. Ды на вусы яны і не падобны зусім, хоць і празвалі іх вусамі.

Звер гэты—кіт. А вусы служаць яму цадзілкай. Зубоў у кіта няма. Замест іх рогавыя пласцінкі цеснымі радамі сядзяць. Гэта і ёсць вусы. Без іх дрэнна кіту было-б. Кіт сам вялікі, а рот у яго вузенькі. Ні то што вялікую рыбу або цюленя,—нават селядца ён праглынуць не можа.

Харчуецца кіт рознаю дробяззю—маленькімі рачкамі, слімакамі. Не скора іх наловіш, каб наесціся такому веліkану.

Набярэ кіт поўны рот вады і цэдзіць яе праз вусы. Усякая жыўнасць дробная, што была ў вадзе, у роце застанецца.

Цэдзіць кіт ваду ўвесь дзень, і так харчуецца.

**Н. ПЛАВІЛЬШЧЫКАЎ.**



# ЯК ЗЛАВІЦЬ БЕГЕМОТА.

НОВАЯ ВЫДУМКА ЯНКІ МАЛАНКІ.



**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ.

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЛЮТЫ 1935 № 2

ЦАНА 30 кап.

# ЗНАКІ АДРОЗНЕННЯ КАМАНДНАГА САСТАВА ЧЫРВОНАЙ АРМІІ І ФЛОТА.



| | | | |
|---|---|---|---|
| Камандзір аддзялення. | Памочнік камандзіра ўзвода. | Старшына роты. | Камандзір узвода. |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Памочнік камандзіра роты. | Камандзір роты. | Памочнік камандзіра батальёна. | Камандзір батальёна. | Памочнік камандзіра палка. |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Камандзір палка. | Камандзір брыгады. | Камандзір дывізіі. | Камандзір корпуса. | Камандуючы ваенным округам. |

---



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Камандзір аддзялення (у флоце). | Старшына. | Галоўны старшына. | Галоўны боцман. | Памочнік вахценнага камандзіра. | Вахценны камандзір. | Камандзір карабля IV ранга (тарпедны кацер). |



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Камандзір карабля III ранга (міnаносец). | Памочнік камандзіра I ранга. | Камандзір карабля II ранга | Камандзір карабля I ранга (крэйсер). | Камандзір лінейнага карабля. | Камандуючы флаціліяй. | Камандуючы морскімі сіламі мора. |

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.
Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА.
Друкарня ім. Сталіна. 17.500 экз. Заказ № 134. Уп. Галоўлітбела № Б—1661.